

# ПЕРШАЕ МАЯ

Вось ідзе наш май вясёлы,
Свята светлае дзяцей.
У прасторы звоняць пчолы,
Носяць мёд яны ў вулей.

Зелянеюць сенажаці,
Сонца ясна зіхаціць.
Сталі птушкі шчабятаці,
З лесам, з сонцам гаманіць.

І пад сцягам пад чырвоным
Пролетары ўсіх краёў
Спатыкаюць май цудоўны,
Што на радасць к нам прышоў.

Звонка песню заспяваем,
Дружна стрэнем весялей
Першы дзень вясёлы мая,
Свята светлае дзяцей!

Пераклад з рускага
Я. КУПАЛЫ



# РУЧАЙ

**Апавяданне П. ВІРТЫ** **Рысункі А. ВОЛКАВА**

Трактарыст выцер спацеўшы лоб, дастаў з кішэні папяросу, сеў на мяжу і яшчэ раз агледзеў поле, якое распасціралася перадім.

Ад мяжы, на якой стаяў трактар, зжатае поле спускалася да вузкага ручая, за ручаём зноў пачынаўся іржэўнік, ён даходзіў да самай вёскі. Вёска стаяла за ўзгоркам, трактарыст бачыў кучкі дрэў і востры царкоўны шпіль.

Ручай, які разразаў лагчыну, пачынаўся недзе далёка і знікаў у дубовым ляску,— вясною ў гэтым ляску спявалі салаўі, трактарыст любіў працаваць на гэтым участку. Цяпер зялёная карона дубоў зблякла, а асіна, якую летам і не заўважыш, рэзка вылучалася сваім чырвоным адзеннем.

Быў ужо адвячорак. У полі стаяла цішыня, толькі чарада варон, што асела на іржэўніку, крычала і хвалявалася. Па небе паўзло дымнае воблачка, яно раставала на вачах. З ляска вышла бурая карова; пацёрщыся аб асіну, яна нагнулася да вады, напілася і зарыкала.

Трактарыст быў новым чалавекам у гэтай мясцовасці і неяк не мог прывыкнуць да думкі, што за некалькі шагоў ад мяжы, на якой ён сядзіць, пачынаецца другая краіна, што спакойны ручай—гэта і ёсць граніца, што чарада варон сварыцца і крычыць за граніцай, што бурая карова—чужая карова, яна, напэўна, уцякла з вёскі, якая відаць адгэтуль.

Трактарыст завёў машыну, ускочыў на пляцоўку, перавёў рычаг, аглянуўся і ўбачыў каля плуга белагаловую дзяўчыну. Ён паглядзеў на яе шырока адкрытыя вочы, на маленькую ручку, якая перабірала край саматканай дзіравай сукенкі, усміхнуўся і падміргнуў дзяўчынцы.

— Сцеражыся!—крыкнуў трактарыст і рвануў за рычаг.

Пад'ехаўшы да суседняга ўчастка, ён зноў убачыў дзяўчынку. Спатыкаючыся і прытрымліваючы падол, яна бегла за трактарам.

„Бачыш ты!—падумаў трактарыст.—Цікавіцца".

Ён спыніў трактар.

— Ты чыя будзеш?

Дзяўчынка маўчала, уся ўвага яе была занята грукатам матора і работай трактарыста.

— Вось матка табе пакажа! Бачыш куды ўцякла!

— Не-е,—сказала дзяўчынка.—У мяне мамы няма.

— Вось яно што! Я такі гляджу—сукенка ў цябе вельмі падраная.

Дзяўчынка, ёй было гадоў восем, не адказала.

— Ты што-ж мяне не ведаеш, ці што? Мяне кожны тут ведае!

Ззаду пачуўся конскі тупат, па граніцы ехаў раз'езд.

Пярэдні конны памахаў рукой і трактарыст спыніў машыну. Кавалерысты пад'ехалі і папрасілі прыкурыць. Старшы—тоўсты хлапец з пушком над верхняй губай—запытаў:

— Дачка ці што?

— Дзе там!—адказаў трактарыст.—Дзяўчынка нечая. Цікавіцца.

— А-а! ты адкуль, дзетка?

Дзяўчынка, убачыўшы кавалерыстаў, сціснулася ў камячок, на вачах у яе заблішчалі слёзы.

— Адтуль,—прашаптала яна.

— Адкуль—адтуль?

— Я карову пасвіла.

— Ды яна—чужаземка!—крыкнуў трактарыст.—Бачыў я карову, на тым баку стаіць.

Кавалерысты глянулі адзін на аднаго.

— Вось дык гісторыя!—сказаў старшы.

— Але!—здзівіўся трактарыст.

Дзяўчынка плакала.

— Ты чаго-ж плачаш?—сказаў трактарыст.—Гэта, брат, Чырвоная Армія!

Дзяўчынка заплакала яшчэ мацней.

— А можа завесці яе да ручая, няхай дамоў бяжыць?—прапанаваў трактарыст.

— Нельга,—строга адказаў старшы.—Прыдзецца весці на заставу. Слухай, дзетка! А ну паедзем з намі. Ды ты не бойся! Хочаш яблычак дам?

Старшы выняў вялікі чырвоны яблык і падаў дзяўчынцы. Яна ўзяла яго, засмяялася, даверліва падалася да старшага і апынулася ў сядле.

— Ну, трымайся,—сказаў старшы,—а то скінешся!

— Не-е,—упэўнена адказала дзяўчынка.

— Як-жа гэта ты сюды прыбегла?—запытаў яе старшы.

— Так.. машына як загудзе!

Дзяўчынка, з'еўшы яблык, адчула сябе як дома, разгаварылася, лепятала нешта пра вёску, пра стражніка, пра паганага суседскага сабаку, які „адразу траіх пакусаў".

Каля заставы раз'езд сустрэў камандзіра пагранічнага атрада.

— Каго злавілі?

— Добры дзень, таварыш камандзір, так што дзяўчынка адтуль прыбегла.

— Чаго-ж ты сюды завітала?—камандзір разгладзіў рыжыя вусы і пашчыкатаў дзяўчынку пад падбародкам.—Як цябе завуць?

— Ася!—ледзь чутна сказала дзяўчынка.

— Ах ты, Ася, Ася! Бацьку твайго як завуць?

— Паўлюк!

— А па прозвішчу?

Дзяўчынка паківала галавою.

— Каза гэтакая! Бяда з вамі!

— Трактарам зацікавілася! Што-ж з ёю рабіць, таварыш камандзір?

— Завязіце яе ў дзіцячы сад, а я польскаму каменданту скажу, няхай справкі навядзе. Заўтра і перадамо дачку Асю бацьку Паўлюку.

* *
*

Цямнела, калі старшы здаў Асю загадчыцы дзіцячым садам. Дзяўчынка заснула і нялёгка было пабудзіць яе.

— А можа і не варта будзіць?—сказаў старшы. Яму стала шкада перарываць спакойны, глыбокі сон дзяўчынкі.

Загадчыца асцярожна вынесла дзіця ў чысты пакой, паклікала няньку, тая хутка падрыхтавала ваду і дзяўчынка толькі ў ванне прачнулася канчаткова. Яна, нічога не разумеючы, аглядвала загадчыцу—яснавокую круглатварую жанчыну з русымі косамі і няньку, старую, зморшчаную і таксама вельмі добрую. Асі памылі галаву, вымерлі ногі ад гразі, дзяўчынка пыхкала, моршчылася, але не плакала.

— Мамы ў цябе няма?

Ася кіўнула галавою.

— Сярдуеш!—шапнула нянька,—бачыш як зарасла.

Толькі Асю абхінулі махраватай прасцынёю, як яна зноў заснула. Яна не чула, як на яе адзявалі кашулю, як клалі ў пасцель.

— Ганна Васільеўна,—шапнула нянька,—цяпер яна як царэўна спіць, а заўтра зноў у нястачу, у гразь...

Ганна Васільеўна нахмурылася, не адказала. Яна ведала аб вялікай галечы, у якой жывуць па той бок граніцы. Не раз бачыла за ручаём брудных, бледных дзяцей, сэрца тады напаўнялася жалем, хацелася падаць ім рукі, завесці да сябе, памыць, накарміць. Але гэтага рабіць было нельга—ручай падзяляў жыццё папалам.

Ася прачнулася і ўбачыла каля свайго ложка хлопчыка, такога-ж белагаловага, як і яна сама. Хлопчык, засунуўшы рукі ў кішэні штонікаў, уважліва разглядаў Асю. Ззаду стаялі хлопчыкі і дзяўчаткі—усе яны таксама ўважліва разглядалі незнаёмку.

— Ты з-за ручая?—запытаў хлопчык.



*Уся ўвага дзяўчынкі была занята работай трактарыста.*

— Я машыну прышла паглядзець!—і Ася адразу расказала аб усім: і аб машыне, і аб суседскім сабаку, і аб бацьку, які „увесь дзень на палосе".

— А ён-бы на трактар сеў!—параіў хлопчык.

— У нас няма.

— Дрэнна,—сказаў хлопчык.—А нас учора вазілі на машыне.

Прышла Ганна Васільеўна, пачала адзяваць Асю. Дзяўчынка з вялікай цікавасцю разглядала чырвоную, з белым гарошкам сукенку.

— А ты ўмееш пісаць?—запытаў хлопчык.

Ася паківала галавой.

— Э-эх, ты,—нездаволена сказаў хлопчык.—А што-ж ты ўмееш? На барабане ўмееш? А пра першае мая ўмееш спяваць?

За снеданнем Ася ледзь не расплакалася. Яна не ўмела карыстацца відэльцамі, пачала есці рукамі, але, заўважыўшы, што ўсе трымаюць відэльцы, узяла іх і ўкалола шчаку. Хлопчык яе суцешыў.

— Дармо,—сказаў ён,—пройдзе!

Пасля снедання дзеці пачалі гуляць. Хлопчык цягнуў Асю да сябе, хацеў вучыць яе іграць на барабане, маршыраваць, але ў дзяўчатак былі лялькі і Ася, пакінуўшы хлопчыка, занялася гульнёй. Яна гаварыла на той самай мове, як і ўсе гэтыя дзеці,—бо толькі-ж ручай падзяляў іх. Яна аказалася жартаўлівай і добрай, хоць і вельмі нясмелай дзяўчынкай.

Пасля абеду і мёртвай гадзіны белагаловы хлопчык усё-ж адарваў Асю ад дзяўчатак і павёў яе ў свой куток. У кутку вісеў партрэт Сталіна, малюнкі, чырвоны сцяжок, нейкі значок.

— Гэта хто? — запытала Ася, паказваючы на партрэт.

— Не ведаеш?

— Не-е...

— Эх, ты! Гэта дзядзя Сталін!

Дзяўчынка, часта міргаючы, глядзела на партрэт.

— Цацкі дзецям дарыць, кветкі! Ён у самай Маскве жыве, вось ён які!

Размова была перапынена прыходам трактарыста.

— Ну як у вас чужаземка жыве?—запытаўся ён.

— Нішто сабе, прывыкла!

— Я для яе аўтамабіль зрабіў.

Ганна Васільеўна ўсміхнулася трактарысту і вышла сустракаць камандзіра атрада. Ён прыехаў па Асю.

Калі Асі сказалі, што трэба ехаць дамоў, яна заплакала. Белагаловы хлопчык загарадзіў яе ад камандзіра атрада.

— А я не пушчу,—злосна надзьмуўшыся, сказаў ён.

Камандзір засмяяўся і падняў хлопчыка на рукі.

Асі падарылі тую самую ляльку, якую яна не выпускала з рук увесь дзень. Лялька была чырвонашчокая і тоўстая. У аўтамабіль нянька паклала вымытую, вычышчаную Асіну сукенку—і яшчэ адну новенькую. Падумаўшы, нянька паклала ў аўтамабіль панчошкі і шаўковую зялёную анучку.

Наверх паклажы на „аўтамабіль" хацелі прыстроіць ляльку, але Ася плакала і ляльку выпускаць з рук не хацела.

Белагаловы хлопчык ірваў камандзіра за галіфе.

— Шкада,—сказаў ён.

— Вельмі?

— Вельмі. Можа я ёй чырвоны сцяжок падарую?

— Нельга.

— Чаму?

— Вырасцеш—даведаешся.

Ася падала хлопчыку тонкую, сіняватую ручку і той доўга яе трос. Потым ён дастаў з кішэні нейкі значок і аддаў ёй.

* * *

Камандзір атрада сустрэўся з польскім камендантам на масціку. На гары стаяў згорблены селянін— Асін бацька. Косыя праменні аблівалі яго хмурую постаць. Лясок быў маўклівы. Дубы натапырыліся. Толькі чырвоныя лісты асіны шапталі аб нечым, ды ручай глуха бурчаў пад мастом. Камендант узяў дзяўчынку за руку і павёў яе праз мост. Дзяўчынка аглядалася назад, плечы яе ўздрыгвалі, яна плакала.

Пераклад К. ШАВЕЛЯ

Малюнак А. ШАХРАЯ

# Вясной



Верш В. БЯДУЛІ

Грэе сонца, свеціць сонца,
Блішчаць кветкі і трава.
Ўсюды радасць, гул бясконца,
Пяюць жабы: „Ква-ква-ква“.

Шэпчуць дрэвы. Журчыць рэчка,
Квокчуць куры на двары.
Скок і скок на луг авечка,
Раздаецца: „Мэ-мэ-мэ!“

Дзеткі-птушкі вядуць гулі
На бярозавым суку.
Вясну кліча птах-зязюля,
Зычна кліча: „Ку-ку-ку!“

Матылёчак, як вясёлка,
Мігаціць пад вешні шум,
А над краскай гудзіць пчолка,
Бае байкі: „Зум-зум-зум!“

Як жывыя, гай, шнурочкі,
Мёдам пахне ўся зямля.
А хлапчына на лужочку
У свісцёлку: „Тра-ля-ля!“



# ЗА СВАБОДНУЮ ІСПАНІЮ!

Гераічны іспанскі народ храбра змагаецца супроць крывавых мяцежнікаў-фашыстаў, сваіх і замежных—італьянскіх і нямецкіх. Фашысцкім бандытам не ўдасца заняволіць іспанскі народ. Фашысты будуць разбіты да канца.



*Гэты хлопчык уцёк на англійскі параход ад фашысцкіх мяцежнікаў, якія занялі яго горад, забілі бацькоў і спалілі дом. Усё, што ў яго асталося, гэта курыца, якую ён захапіў з сабою.*



*Труслівыя нямецкія і італьянскія лётчыкі баяцца нападаць на рэспубліканскія самалёты. Яны нападаюць на мірныя рабочыя кварталы, бальніцы, школы. На здымку—маці з дзіцем на абломках дома, разбуранага фашысцкімі самалётамі.*



*Простай драўлянай прыладай байцы рэспубліканскай арміі малоцяць збожжа.*



*Многія іспанскія дзеці змагаюцца супроць фашыстаў на франтах. Гэта дзяўчынка—герой грамадзянскай вайны ў Іспаніі. У баях пад г. Таледо яна застрэліла пяць фашыстаў.*



*Рэспубліканцы атакуюць пазіцыю мяцежнікаў на Мадрыдскім фронце.*



*Усяму свету вядома славутая іспанская рэвалюцыянерка Даларэс Ібаруры. Такіх гераічных жанчын у Іспаніі многа. **На здымку—жанчына**-баец рэспубліканскай арміі з сваім дзіцем.*

**НЯХАЙ ЖЫВЕ ГЕРАІЧНЫ ІСПАНСКІ НАРОД!**

# Дзядзя Сцёпа

Верш С. МІХАЛКОВА
Малюнкі Н. МАЛЕВІЧА

У доме восем дроб адзін,
Ля заставы Ільіча,
Пражываў грамадзянін
Па празванню „Каланча“,
А па прозвішчу Сцяпанаў
І па імені Сцяпан,—
Ён з раённых веліканаў
Быў найбольшы велікан.

Паважалі дзядзю Сцёпу
За такі высокі рост.
Як ішоў дахаты Сцёпа—
Дык відаць быў за пяць вёрст.

Велікан сажнёвым шагам
Па дарозе ўсіх мінаў.
Сорак пятага размеру
Боты ён сабе купляў.

Ён шукаў сабе на рынку
Велізарныя бацінкі.
Ён шукаў сабе штаны
Незвычайнай шырыні,
Небывалай даўжыні—



Каб былі якраз яны.
А як знойдзе, дык з ахвотай
Іх адзене, раптам—трах!
Уся кравецкая работа
Распаўзаецца па швах.

У любы ён агарод
Мог заглядваць цераз плот.
Брэх сабакі падымалі,
Прэч Сцяпана адганялі.

У сталоўцы дзядзя Сцёпа
Браў сабе двайны абед.
Спаць лажыўся дзядзя Сцёпа,
Ногі клаў на табурэт.

І не раз пра велікана
У кіно было чуваць:
„Сядзьце, дзядзя, на падлогу,
Вам і так будзе відаць“.

Кожны дзень на стадыён
Мог хадзіць бясплатна ён,—
Прапускалі дзядзю Сцёпу,
Думалі, што чэмпіён.

Дзядзя Сцёпа ўсё умее
І на ўсё заўжды гатоў:
Даставаў ён дзецям змея
З тэлеграфных правадоў.
І малых рэбят нямала
На парадах ён, бывала,
Падымаў, бо ўсе павінны
Бачыць армію краіны.

Усе любілі дзядзю Сцёпу,
Паважалі дзядзю Сцёпу,
Быў ён самым лепшым другам
Для рэбят з усіх двароў.

Ён дамоў ідзе з Арбата.
„Як жывеш?“—крычаць рэбята,

Калі чхне—рэбята хорам:
„Дзядзя Сцёпа, будзь здароў!"

Дзядзя Сцёпа раным-рана
Хутка ўсхватваўся з дывана,
Насцеж вокны адчыняў
І халодны душ прымаў,
Выціраўся ручніком,
Чысціў зубы парашком.

Над Масквой стаіць спякота,
Усе хаваюцца у цень...

Ён стаіць пад парашутам
І намерыўся скакаць.
А пад ім народ рагоча:
„Вышка з вышкі скокнуць хоча".

Паравоз гудзе, ляціць,
Машыніст удаль глядзіць.
Раптам стаў ён качагару
Са здзіўленнем гаварыць:

„Ад вакзала да вакзала
Рэйсаў я зрабіў нямала,



Дзядзя Сцёпа ў летнім парку
Выхадны праводзіць дзень.

Чалавек сядзіць у сядле,
Ногі цягне па зямлі.
Гэта едзе дзядзя Сцёпа
Па дарожцы на асле.

„Вам,—крычаць Сцяпану людзі,—
Трэба ехаць на вярблюдзе".
Ён паехаў на вярблюдзе,
Але зноў смяюцца людзі.
„Вам, па вашай вышыні,
Трэба ехаць на слані".

Дзядзю Сцёпу дзве мінуты
Застаюцца да прыжка,

Ды не знаў да гэтых пор
Я пра новы семафор".

Пад'язджаюць яны бліжай:
Што такое за падман?
Бачаць: замест семафора
Збоку тут стаіць Сцяпан.
І гукае ён здалёк:
„Тут дажджамі шлях размыт.
Я падняў руку знарок,
Паказаць, што шлях закрыт".

Што за дым над галавой,
Што за гром на маставой?
Усе пажарныя каманды
На пажар ляцяць стралой.

Дом ахоплены агнём,
Сто зявак стаіць кругом.
І пажарныя з брандсбойтаў
Дружна тушаць гэты дом.

Па страсе агонь шугае,
Галубятню ўжо займае,
Птушкі бедныя даўно
Б'юцца крыллямі ў акно.

На двары хлапцы стаяць,
Сумна ўверх яны глядзяць
„Дзядзя Сцёпа! памажыце!
Галубы нашы згараць!"

Дзядзя Сцёпа з тратуара
Рукі ўверх свае падняў
І ў густым дыму пажара
Галубятню адшукаў.
Ён акенца адчыняе,
І з акенца вылятае
Восемнаццаць галубоў,
Шызакрылых варкуноў.

Усе рэбята Сцёпу рады.
Ён праходзіць цераз двор.
„Можа хочаш стаць пажарным?"
Запытаўся брандмаёр.
Дзядзя Сцёпа на-хаду
Кажа: „Не, у флот пайду,
Буду мець на бесказырцы
Я чырвоную звязду".

І аднойчы міма мосту
К дому восем дроб адзін
Дзядзісцёпінага росту
Прашагаў грамадзянін.
Хто, таварышы, знаём
З гэтым бравым маракам?

Ён ідзе.
Скрыпяць сняжынкі.
Раўнамерны яго шаг,
На ім чорныя бацінкі,
Чамадан нясе ў руках.
Адпрасаваныя складкі
На штанах яго ляжаць.
На руках яго пальчаткі,
Якары на ім блішчаць.



Буквы весела гараць,
І ўсе могуць прачытаць,
Што ідзе марак з лінкора,
А лінкор „Маратам" зваць.
Хутка дзядзя незнаёмы
Апынуўся каля дому.
І рэбята тут яму
Кажуць: дзядзя, вы к каму?

Дзядзя Сцёпа адвярнуўся
І сказаў ім: „Я вярнуўся.
Вы заходзьце. Сто гісторый
Раскажу вам пра кітоў
І пра тое, як у моры
Я тапіўся сем разоў".

І цяпер усе рэбята—
Піонеры, акцябрата—
Ганарацца, што знаёмы
З гэтым слаўным маракам.

Ён дамоў ідзе з Арбата.
„Як жывеш!"—крычаць рэбята.
І цяпер завуць рэбята
Дзядзю Сцёпу „Маяком".

*Пераклад А. Я.*



# ГОЛУБ

**Апавяданне дзяткора Ф. КАРНУШЭНКА**

Сымон і Андрэй гулялі на двары. Было лета. Свяціла сонца. Раптам хлопцы ўбачылі голуба. Ён зляцеў са страхі на сметнік. Сымон з Андрэем схаваліся пад страхой і сталі сачыць за голубам. Ім цікава было разглядаць голуба зблізку. Апрача таго, яны раіліся між сабой, як-бы ім злавіць гэтага голуба. Голуб быў вялікі, шызы. Ён важна пахаджваў па сметніку і дзёўб нешта. Голуб не бачыў хлапцоў.

Але вось каменем упаў з гары каршун. Ён, відаць, кружыўся тут і выгледзеў голуба. Хлопцы яго раней не заўважылі. Голуб ірвануў уверх. Усё вышэй і вышэй. Каршун—за ім. Але ён быў цяжэйшы і не мог дагнаць голуба. Голуб узняўся высока-высока. Сымон з Андрэем паднялі крык. Але каршун не адставаў. Ён таксама ўзнімаўся вышэй і вышэй. Голуб пакружыўся крыху ўгары і стаў спускацца. Відаць, і сам збаяўся такой вышыні, куды заляцеў.

Але яго пераняў каршун. Ён схапіў голуба, сціснуў яго ў сваіх кіпцюрах і, спусціўшыся ніжэй да зямлі, паляцеў на балота ў хмызнякі.

Сымон з Андрэем з крыкам кінуліся ўслед за каршуном.

Каршун даляцеў да балота, спусціўся ўніз і стаў разрываць сваю здабычу. Калі хлопцы дабеглі сюды, каршун узняўся зноў з голубам у кіпцюрах і паляцеў далей.

Сымон з Андрэем доўга шкадавалі голуба.

# ВЯСНОВЫ ВЕЦЕР

**Верш А. КРОТА**

Разгуляўся вецер
Свежы, жартаўлівы
Над шырокім полем,
Над калгаснай нівай.

Лісцікі цярэбіць
На зялёных дрэвах
І шуміць, спявае
Аднастайным спевам.

Загулі на полі
Трактары, камбайны—
Праца закіпела
У людзей у дбайных.

І цвіце краіна,
Як вясною кветка...
Прабягае свежы
Вецер на палетках.



# ПАРТЫЗАН МАКСІМ

Апавяданне В. ХОМЧАНКІ
Малюнкі А. ШАХРАЯ

Прасторна і прыемна летам у лесе.

Важна стаяць галінастыя дубы. Белыя, нібы аблітыя малаком, бярозы зззяюць на сонцы. Кучаравыя клёны, вязы блішчаць лістамі. Уверсе ў лісцях дрэў чокаюць драздыі, пішчаць клясты, пінькаюць сініцы. Моцна каркаючы, лятаюць вароны.

Косця і Алёша варочаліся з ягад. Косця быў старэйшы і байчэйшы за Алёшу. Яму было дзесяць год, а Алёшу—восем.

Ішлі яны моўчкі, не спяшаючыся, хоць да краю лесу было далёка.

Першы парушыў маўчанне Косця.

— Кажуць, чырвоныя да нас хутка прыдуць. Ужо ў Калінічах.

Калінічы—гэта суседняя вёска. Кіламетраў шэсць ад іхняй.

— О, каб прышлі,—зарадаваўся Алёша.—Мы-б зноў на чырвонаармейскіх конях ездзілі. Праўда?

Косцік кіўнуў уніз галавою і сказаў ціха:

— Палякі—гады. Карову ў нас забралі...

— І ў нас гусей парэзалі,—сказаў Алёша.

Хлопцам стала сумна. Яны ішлі і маўчалі.

— Дзе цяпер твой дзядзька Максім?—спытаў Алёша.

Косцік аглянуўся вакол сябе і прашаптаў:

— У лесе, в партызанамі... Дзядзька Максім у іх атаманам...

Дзесьці недалёка засвістала і сціхла івалга. У траве трашчалі конікі. З травы прыветліва пазіралі малінавыя смалянкі, залаты кураслеп.

Калі Косцік нагнуўся каля куста з ягадамі, з-пад рук яго скокнуў і пабег малады заяц.

— Алёша! заяц!—крыкнуў Косцік і, паставіўшы кошык на пень, запляскаў далонямі.

— Во, касы,—засмяяўся Алёша.

Угары кружыўся каршун. Ён склаў крыллі і каменем упаў на зямлю.

Раптам недалёка раздаўся глухі стрэл.

Алёша і Косцік уздрыгнулі.

— Хадзем хутчэй, гэта палякі, мусіць,—спалохаўся Алёша.

Але ў гэты час зноў раздаліся тры стрэлы адразу.

Хлапчукі кінуліся бегчы. Яны выбеглі на прагаліну. На другім краі прагаліны кусты расхіналіся і шуршалі. З кустоў відаць былі шэрыя крыллі.

— Каршун кагосьці дзярэ,—сказаў Косцік, і яны пабеглі да кустоў.

Каршун узляцеў і схаваўся за вяршынамі дрэў.

— Вось ён заяц,—сказаў Алёша.—У крыві ўвесь. Але жывы.

Алёша асцярожна ўзяў зайца на рукі і яны пайшлі, забыўшыся аб стрэлах. З зайца капала на траву кроў.

— Косцік... Косцік,—раптам, задыхаючыся, ціха прагаварыў Алёша.—Глядзі... дзядзька Максім!

Між кустоў, цяжка апіраючыся на вінтоўку, спяшаўся дзядзька Максім. Кроў цякла з яго нагі па белых анучах і капала на траву. Твар яго быў белы. Хлопцаў ён не бачыў. Вось ён ішоў і паваліўся. Спрабаваў падняцца, але не мог.

— Уцякай,—сказаў Алёша,—гэта-ж палякі за ім гоняцца. Яны і стралялі ў яго

— Я пайду да яго. Пойдзем,—адказаў дрыжачым голасам Косцік.

Дзядзька Максім, убачыўшы хлапцоў, замахаў на іх рукамі:

— Уцякайце...

Косцік заплакаў. Дзядзька памаўчаў, а потым сказаў:

— Косцік, бяжы ў Бярозавы лог, на пасеку да лясніка... Там партызаны. Скажы, каб сюды хутчэй ляцелі.

Далёка трашчала галлё—гэта беглі ўслед за Максімам палякі.

— Алёша, хавайся ў кусты,—сказаў Косцік.

Алёша, нічога не разумеючы, улез у кусты. Косцік накрыў дзядзьку ссечанай верхавінай бярозкі, а сам пайшоў насустрач бегшым белапалякам.

— Стой!—крыкнуў адзін з іх на Косціка.—Чалавека бачыў?

— Бачыў... Ранены ў нагу... Пабег туды,—паказаў Косцік зусім у адваротны бок ад таго месца, дзе ляжаў дзядзька Максім. Рукі ў Косціка дрыжалі.

— Ідзі з намі,—загадаў белапаляк.

Белапалякі ішлі, разглядаючы кожны куст.

— Вось і кроў з яго нагі,—паказаў Косцік на кроў таго зайца, якога ён нёс з Алёшам.

Адзін белапаляк штосьці крыкнуў, і яны ўсе пабеглі па крываваму следу. Косцік спыніўся. Калі белапалякі схаваліся за дрэвамі, Косцік завярнуўся і пабег да Алёшы.

— Бяжы хутчэй дамоў,—задыхаючыся, сказаў ён Алёшу.—А я пабягу да партызан у Бярозавы лог.

І Косцік, колькі было сілы, пабег да партызан. Вецер свістаў у вушах, галлё балюча біла па твары, руках, а ён усё бег, бег.

...Праз гадзіну сюды прымчаліся партызаны...

Дзядзька Максім па-ранейшаму ляжаў пад бярозкай. Нага ў яго разбалелася, ён ціха стагнаў. І толькі як пачуў стрэлы, ён здагадаўся, што гэта прыскочылі сюды Косцік з партызанамі. Ад радасці дзядзька Максім усхапіўся і, не зважаючы на вялікую боль, кінуўся да сваіх.




Біцюг. Мул. Шатландскі поні. Арабскі скакун.

# ЯК ЧАЛАВЕК ПЕРАРАБЛЯЕ ЖЫВЁ

Усе мы ведаем, што кожная наша свойская жывёліна мае на волі дзікага сваяка. Свіння і кошка, гусь і качка маюць сваіх дзікіх братоў на волі. Брат нашага сабакі—воўк, у быка шмат сваякоў—буйвал, зубр, бізон, як; куры маюць дзікіх сясцёр у Азіі. там-жа ёсць дзікія коні, бараны; у Італіі і Іспаніі жывуць дзікія трусы, досыць часта сустракаюцца дзікія козы, галубы і гэтак далей.

Не цяжка здагадацца, што ўсе нашы хатнія жывёлы—гэта прыручаныя дзікія. Але на працягу тысячагоддзяў яны так пераároблены чалавекам, што шмат каго з іх цяпер не пазнаў-бы і свой брат—дзікі сваяк. Напрыклад, наўрад ці прызнаў-бы воўк за свайго сваяка якога-небудзь англійскага мопса ці французскага сабачку-карліка, якога можна насіць у кішэні. Здзівіўся-б напэўна і дзік, убачыўшы далікатную, белую ёркшырскую свінню. І гэтак можна сказаць пра кожную жывёліну.

Думаюць, што першай прыручанай жывёлінай быў сабака. Мы нават можам уявіць сабе, як гэта адбылося. Сядзіць увечары першабытны чалавек у пячоры, ля вогнішча, есць мяса, а косці кідае прэч. Бачыць—нейкі звер падхапіў костку і хрумстае яе. Але звер невялікі, нястрашны. Чалавек часта бачыў яго і не баяўся. Ха... сабе падбірае косткі. Звер прынадзіў... і пачаў прыходзіць усё часцей ды часце... бадай што кожную ноч начаваў каля п... чоры. А ўдзень хоць уцякаў ад людзе... але заставаўся паблізу.

Аднаго разу ўначы, калі людзі ў пячор... спалі, а агонь ледзь тлеўся, раптам п... чуўся ні то брэх, ні то выццё. Людзі ў... хапіліся і ўбачылі, што ля ўвахода ў пяч... ру туляецца тыгр. Але як толькі люд... заварушыліся ды раздзьмухалі агонь,—др... пежнік знік.

„Гэта наш знаёмы звер папярэдзіў і выр... гаваў нас“,—сказалі людзі і з гэтага ча... захацелі пасябраваць з ім яшчэ лепш. Ян... пачалі кідаць яму не толькі косткі, а... і мяса. Зразумела, што такім чынам ян... нарэшце, зусім пасябраваліся.


Дзікія коні

А далей пачаўся адбор. Чалавек выбіраў, прыручаў і гадаваў такіх сабак, якія для яго былі больш карысныя: якія былі больш паслухмяныя, якія лепей умелі брахаць, якія былі больш рахманымі, якія былі наогул лепшымі вартаўнікамі і памочнікамі. Так, праз тысячы гадоў, і вывеліся сучасныя розныя сабакі.

У даўнейшыя часы на тэрыторыі СССР жылі дзікія, лютыя быкі—туры, на якіх вельмі любілі паляваць князі і памешчыкі. Асабліва многа тураў было ў Палессі, дзе і цяпер яшчэ ёсць горад Тураў.



Дзікі тур.

Туры былі зусім знішчаны гадоў трыста таму назад. Але затое ўсе нашы каровы—патомкі гэтых тураў.

Прыручыўшы тура, чалавек пачаў перарабляць яго на свой манер. Дзікая турыца за ўвесь год давала літраў 300 малака, а цяперашнія нашы каровы даюць 3000, часта 6 і 10 тысяч, нават яшчэ болей. У Амерыцы знайшлася карова, якая дала аж 17000 літраў! Амерыканцы ёй нават помнік паставілі.

Якім-жа чынам чалавек зрабіў гэта? Зноў-жа тым самым адборам.

Усе мы ведаем, што гаспадар не зарэжа на мяса карову, якая дае многа малака, таксама не зарэжа і яе цяля. А немалочных рэжуць. Такім чынам, лік немалочных у нас змяншаецца, а малочных павялічваецца. А потым з гэтых малочных на мяса будуць выбіраць толькі тых, якія трохі менш даюць малака, а больш малочныя будуць заставацца. Гэткім чынам мы калінебудзь дойдзем да таго, што ўсе каровы будуць даваць па 17000 літраў малака ў год.

Разам з сабакам каля чалавека заўсёды быў другі таварыш—конь. Нават дзікіх сваякоў яго ніхто не ведаў. Можа іх і няма зусім? Але не. Гадоў пяцьдзесят назад вядомы падарожнік Пржэвальскі знайшоў гэтых дзікіх сваякоў у Манголіі. Так яны і завуцца цяпер: коні Пржэвальскага. Знайсці і злавіць іх вельмі цяжка, ды і мала іх засталося. А прыручаныя сваякі іх засяляюць увесь свет і маюць безліч усялякіх парод, вызедзеных чалавекам.

Цікава параўнаць дзікую свінню з хатняй. Калі ад дзіка ўзяць галаву і ногі, то ад яго мала што-і застанецца: мяса вельмі мала, а сала дык і зусім не будзе. А ў нашых добрых свіней галава і ногі займаюць толькі дзесятую частку цела. Апрача таго і плодзяцца нашы свінні куды хутчэй за дзікіх.

А якіх авечак вывеў чалавек! Адных з вялікім запасам тлушчу, другіх з мяккай доўгай воўнай. У Савецкім Саюзе нават спрабуюць вывесці авечак з воўнай розных колераў.

Дзікіх вярблюдаў мы не ведаем, калі не лічыць далёкіх сваякоў у Паўднёвай Амерыцы—ламаў і альпагаў. Не заўважаем мы і змен у вярблюдах. Гэта таму, што яны ўвесь час жывуць у аднолькавых умовах: у пустынях ды сухіх стэпах. Ад жыцця у гарачых пустынях у вярблюда захавалася цікавая прывычка: ён удзень ніколі не лажыцца адпачываць адразу на зямлю, а спачатку пастаіць хвілін дваццаць і пасля ўжо лажыцца на тое месца, дзе быў яго цень, бо пясок там пахаладзеў.


Англійскі певень.


Гудан.


Леггорн.


Японскі певень „Іокагама“.


Іспанскі певень.


Нямецкі певень.


Галандскі певень


Польскі певень.


Флешскі певень.


Брабантскі певень.


Іспанскі байцовы певень.

У паўночнага аленя рассунуліся капыты, каб лягчэй было хадзіць па балотах. Апрача таго, ён зусім страціў здольнасць пацець. Каб ён у дарозе спацеў, а потым спыніўся на марозе, то ўвесь абледзянеў-бы.

А вазьміце нашых курэй, якія развучыліся лётаць, але затое навучыліся несці шмат яек. Іхнія сёстры на волі нясуць у год па штук 20 яек, а ў нас ёсць куры, якія нясуць па 350 яек, бадай што кожны дзень. І гэта зрабіў чалавек шляхам адбору. Тое самае можна сказаць і пра ўсе іншыя хатнія жывёлы.

А ці можна вывесці новых хатніх жывёл, апрача тых, якія ўжо маем? Можна, і гэта ўжо робяць нашы заапаркі. Ёсць, напрыклад, каштоўнейшая дзікая жывеліна—лось; ён можа прайсці там, дзе ніякая наша жывёла не пройдзе; ён вялікі, дужы і можа карміцца галінкамі дрэў; і мяса яго смачнае, і скура найлепшая, і рогі добры матэрыял. Нашы навуковыя ўстановы іх цяпер прыручаюць і ўжо маюць некаторыя поспехі: ёсць ласі, якіх можна нават запрэгчы.

Прыручаюць у нас страусаў, зебраў і многіх іншых карысных замежных жывёл. А таксама гадуюць дзікіх пушных звяркоў: собаляў, гарнастаяў, лісіц. Наогул нідзе не пастаўлена так справа па асваенню новых жывёл, як у нашай краіне.

Я. Ж.



Я. ГЕРАСІМОВІЧ

# ПРЫРОДА ВЯСНОЮ

Апошнія плямы снегу зніклі. Раптоўна заварушыліся, набеглі ў розныя бакі бліскучыя ручаіны.

Ускрыліся рэкі, азёры. Вада заліла сенажаці, нізіны палёў, ускраіны лесу. Яна нястрымна імкнецца, сярдзіта хвалюецца, шуміць і плюскоча, руйнуе на сваім шляху перашкоды, каб вырвацца на шырокія прасторы бескрайніх далячынь.

Лёгкі ветрык прыемна калыша свежае веснавое паветра. Павольна прасыхае сагрэтая сонцам зямля.

Пад уплывам сонечнага святла, цеплыні, вады і спажывы пачынае абуджацца жывая прырода.

Карані раслін, якія доўгі час знаходзіліся ў стане зімовага спакою, пачалі набіраць спажыву з нагрэтае сонцам глебы. У сцяблах раслін пачаў рушыцца сок. На дрэвах і кустах набухлі пупушынкі і вось-вось гатовы распусціцца. На зацішных палянках у лесе і сярод хмызнякоў паказаліся першыя госці вясны—белыя пралескі.

Пасля спаду паводкі пачынае зелянець луг. Яго вільготныя лагчыны зажаўцелі прыгожымі кветкамі лотаці.

З далёкага поўдня вярнуліся чароды птушак. Над калгаснымі палямі зазвінелі жаваранкі, прыветным крыкам сустрэла суседні гай чарада гракоў. На двары, каля акна, загаманілі вясёлыя шпакі. Сваіх прыяцеляў—шпакоў ужо даўно чакалі дзеці. Юныя натуралісты і прыхільнікі птушак пабудавалі новыя шпакоўніцы і паставілі іх у зацішных куточках, на ліпах, бярозах і іншых дрэвах.

З вялікай радасцю сустрэлі дзеці і першых буслоў. Буслы занялі свае старыя гнёзды на стрэхах будынкаў, на тоўстых разложыстых дрэвах. У час вялікага і цяжкага падарожжа буслы ўтаміліся. Сёння яны спакойна адпачываюць, а заўтра пачнуць клапатліва рамантаваць свае старыя гнёзды, пашкоджаныя зімовымі завеямі.

Зазвінелі камары, мухі, розныя казюлькі. Пасля доўгага зімовага адпачынку вышлі з вулляў клапатлівыя пчолкі. Яны паляцелі ў зацішныя куточкі лесу, на прывабныя пялёсткі першых кветак.

У цёплы, ціхі вечар на балоце першы раз закрахталі жабы, паказаліся кнігаўкі і качкі.

Дзесьці недалёка, у зараслях азёрнага чароту, загаманілі дзікія гусі. Яны тут прыпыніліся адпачыць, а пасля паляцяць на сваю радзіму—далёкую поўнач.

З кожным днём становіцца цяплей, з кожным днём змяняецца характво самой прыроды.

Вось на небасхіле паказалася першая веснавая хмара. Яна павольна ўзнімаецца і ўсё шырэй абдымае пацямнеўшы край неба. Сярод настарожанай цішыні, на яе цёмнай постаці мільганулі бліскучыя стужкі-маланкі і раптам загрукацеў першы гром. Імклівы дыхнуў свежы ветрык і буйныя каплі дажджу пасыпаліся на зямлю. Сонца схавалася за хмару. На момант заціхлі спевы птушак. Зашумеў, павеяў свежым паветрам сасновы бор. Яшчэ раз загрукацеў кароткі, прарывісты гром, і першая навальніца панеслася далей. Неба праяснілася. Прыветна глянула яркае сонца. Усё ажыло, заварушылася, загаманіла. На свежай, пазелянеўшай траве заблішчалі празрыстыя кроплі вады.







ІСКРЫ ІЛЬІЧА

ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСВЕТЫ
ВЫДАВЕЦТВА „ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА"

ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ АКЦЯБРАТ І ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ

КРАСАВІК 1937 г. № 4

ЦАНА 30 кап.

# ЗАГАДКІ

1. Скура тоўстая, а пад скурай пуста.
2. Ішло хлапцоў дваццаць пяць, пасля зімы сляды знаць.
3. Стукае, грукае і нідзе яго не знойдзеш.
4. Цуглі ў рот—не хачу, на вадапой—не хачу, аўса—не хачу, а хочаш—паару і памалачу.
5. Сядзіць паненка, на ёй чырвоная сукенка, хто ідзе—ёй паклоніцца.
6. Увосень рассыпаецца, улетку збіраецца, само поўнае бывае, людзей накармляе.
7. Без плеч, а ляжыць, без ног, а бяжыць.
8. Чым больш з яе бярэш, тым большая яна становіцца.
9. Дзірак шмат, а вылезці няма кудой.
10. Сагнута ў дугу, летам на лугу, зімой на крюку.
11. Мяне з дрэва наламалі, потым лыкам абвязалі, ну а я і не сумую, ды па хаце ўсё танцую.

**Адгадкі глядзі ў наступным нумары**

**АДКАЗ НА ЗАДАЧУ З № 3**

*Спачатку трэба перавезці казу, потым ваўка, а казу забраць назад. Пасля перавезці капусту і, нарэшце, вярнуцца забраць казу.*

## ЗАГАДАЧНЫ МАЛЮНАК



Дзе гаспадар гэтага сабакі?



Кітайскія цені.

Рэдактар А. ЯКІМОВІЧ Афармленне В. ЦІХАНОВІЧА Адрас рэдакцыі: МЕНСК, ДОМ ДРУКУ

Друкарня імя Сталіна 20000 экз. Зак. № 482. Галоўлітбел № 226.